370

# НАВІНКІ

24 красавіка - 1 мая 2003 №12(91) Кошт свабодны




# ПІР ПАДЧАС



# АТЫПОВАЙ ПНЭЎМАНІІ

Паведамленьні пра злавесны вірус з вуліц і шпіталяў Канады, Кітаю ды Ганконгу, якія сёньня ўжо надзейна зацьмілі нядаўні канфлікт у Іраку, усё больш нагадваюць ваенныя зводкі зь месцаў крывапралітных баеў: колькі людзей параненых (шпіталізавана), колькі забітых (памерлі ад бацылы), колькі ўзятых у палон (прымусова пасаджаных на каранцін)... Наколькі паралелі паміж гэтымі дзьвюма сучаснымі гістэрыямі аб'ектыўна апраўданыя?

*(Працяг тэмы на стар.4)*

## ААН прыняла чарговую рэзалюцыю па Беларусі.

Стар. 6, 11

## *Талкінізм: клінічныя назіраньні.*

Стар.12

## Насустрач севу!

Выступаючы на рэспубліканскай сэлектарнай нарадзе па пытаньнях правядзеньня пасяўной кампаніі А.Лукашэнка заявіў «Ні адна дзяржава столькі для сяла ня робіць». Акрамя таго, прэзыдэнт адзначыў «агромны рост беспрацоўя, падзеньне вытворчасьці, у тым ліку й сельскагаспадарчага у Эўропе», у прыватнасьці ў такіх краінах, як Нямеччына, Францыя, эканамічны крызыс у ЗША. Так што, калі беларусы прамышляюць гастарбайтэрствам на эўрапейскх плянтацыях, то з пачаткам крызысу ў Эўропе варта чакаць прытоку таннай працоўнай сілы з Францыі, Нямеччыны і інш., ну калі не на вясновы сеў, то на «Дажынкі» дакладна.

## *Неверагодныя прыгоды французаў у* Беларусі

Стар.16

## СА СЬВЯТАМ 1 МАЯ

**Шаноўныя чытачы!**
**Сьвята працы Рэдакцыя газэты «НАВІНКІ» адзначыць ударным адпачынкам. Таму наступны нумар газэты выйдзе 8 мая.**

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 24.04.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у ПРУП «Чырвоная Зорка», г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2387

## НавІнкі ў тЭстах

**1. 23 красавіка А.Лукашэнка зацьвердзіў генэральны плян разьвіцьця гораду:**
А) Менску
Б) Багдаду
В) Шклову

**2. 24 красавіка ў Палаце Прадстаўнікоў прайшлі парлямэнцкія слуханьні па пытаньнях:**
А) Нацыяналізацыі
Б) Легалізацыі
В) Прыватызацыі

**3. З 21 па 28 красавіка па ўсёй Беларусі праходзіць акцыя «Тыдзень:**
А) Дабра
Б) Зла
В) Абыякавасьці

**4. Прадстаўнікі якой беларускай спэцслужбы ўдзельнічаюць у конкурсе на званьне «Лепшы па прафэсіі», што праходзіць у Маскве?**
А) АМАПаўцы
Б) Гаішнікі
В) Асэнізатары

**5. Які сэзон завяршыўся ў Беларусі 22 красавіка?**
А) Ацяпляльны
Б) Маразільны
В) Грыбны

**6. У якім нямецкім горадзе пройдуць дні культуры Беларусі?**
А) Кёнігсбэрг
Б) Карл-Маркс-штадт
В) Штутгарт

**7. Хто складае 63% ад усіх беспрацоўных Беларусі?**
А) Мужчыны
Б) Жанчыны
В) Іншыя

**8. Над якім фэстывалем узялі шэфства А.Лукашэнка і У.Пуцін?**
А) Вудсток
Б) Славянскі базар
В) Велікодны

**9. 434 праекты гімну якой дзяржавы былі забракаваныя экспэртнай камісіяй?**
А) Трынідад і Табага
Б) Палескай рэспублікі
В) Саюзнай

**10. З кім сустрэўся А.Лукашэнка на гэтым тыдні?**
А) З прэм'ер-міністрам
Б) З былым міністрам
В) З міністрэлем

**11. Дзень народзінаў якога правадыра адзначыла 22 красавіка ўсё прагрэсіўнае чалавецтва?**
А) Леніна
Б) Сталіна
В) Троцкага

**12. Выставу якой галерэі наведаў А.Лукашэнка 24 красавіка?**
А) Трэцякоўскай
Б) Дрэздэнскай
В) Ханты-Мансійскай

**13. З-за якой хваробы ў Пекіне аб'яўлены карантын ва ўсіх навучальных установах?**
А) Цэрэбральнага паралічу
Б) Трыпэру
В) Пнэўманіі

**14. Якія расейскія кампаніі аб'явілі пра зьліцьцё ў адную кантору?**
А) Юкос і Сибнефть
Б) Очаково і Балтика
В) Мясушко і Микоян

**Правільныя адказы**: 1-А, 2-В, 3-А, 4-Б, 5-А, 6-В, 7-Б, 8-В, 9-В, 10-А, 11-А, 12-А, 13-В, 14-А

# Ну, за праезд!

## *Язда безъ білету – гэта прызваньне*

Кожны з нас у сваім жыцьці хоць адзін раз пабываў у заечай скуры. Якое гэта непрыемнае пачуцьцё, калі ў аўтобус заходзіць кантралёр, а ў цябе няма праязднога. Прыходзіцца адбрэхвацца, маўляў, бедны галодны студэнт, грошай няма. Добра, калі сумленная цётка пападзецца – зьлітуецца ды адпусьціць. А бываюць жа кобры, якім хоць кол на галаве чашы, яны сваё талдычуць: «Давай грошы».

Днямі прадстаўнікі адной з самых ненавісных пародаў – кантрольнай службы ўпраўленьня транспарту і сувязі Менгарвыканкаму – падвялі вынікі сваёй контарнароднай працы за першы квартал бягучага году. Так толькі ў сталіцы людзі ў сіняй уніформе праверылі 4 мільёны 531 тысячу чалавек. Вынікі сумныя. 61 тысяча 584 бедалаг трапілі ў лапы прадстаўнікоў закону. Зь іх за безьбілетны праезд былі аштрафаваныя 15.594 пасажыры на агульную суму амаль у 100 мільёнаў рублёў. Яшчэ на 943 вушастых, якія адмовіліся прызнаваць сваю віну, былі складзеныя пратаколы, блага, супрацоўнікі міліцыі ў кантралёраў заўсёды пад рукой. Ласкава завядуць для ўдакладненьня ва ўтульны ПАЗік, а там ужо толькі на бога спадзявайся.




Прышлюць паперу на працу альбо ў унівэрсытэт і даказвай потым, што ты не вярблюд. А чаго добрага справу могуць і ў суд накіраваць.Так што, паважаныя пасажыры, своечасова аплочвайце праезд! ●

**Анры дэ Мантэрлан,**
кандуктар

### КрымінАл

## Ша!блязубыя зайцы

**За гэта трэба рваць зубы, пілаваць пальцы –**
**Транспарт абшчэсьцьвенны грызуць зайцы!**

**Уявіце сабе:**
**Аўтапаркі гнуцца ад недахопу дэталяў,**
**А ў Менску**
**Кожны другі – аматар халявы.**

**Падлетак-чудак-абібок,**
**Гэта не проста мухлярства дзеля забавы.**
**Сваім учынкам дурным**
**Ты цягнеш бабулі з кішэні дзяржавы.**

**Каб не было ніколі гэтай фігні,**
**Трэба павялічваць штаты.**
**З кантралёрам хай езде заўжды**
**Доблесны супрацоўнік АМАПу.**

**Кожнаму кантралёру выдаць табельны пісталет,**
**Плюс франтавых сто грамаў глыток!**
**Натоўпам браць кожны аб'ект!**
**Страляць**
**Усіх, хто не мае квіток!**

**Ярыла Пшанічны**

# З хаўна – цукерку




*Беларускія бамжы хутка пазбавяцца апошняга прытулку*

Экалёгія – адная з самых актуальных праблемаў сучаснай Беларусі. На сумнавядомы Чарнобыль накладваюцца іншыя фактары. Тут і шкодныя выкіды прамысловых прадпрыемстваў у атмасфэру, і штогадовыя пажары на тарфяніках, і эрозія глебы. Але, бадай, нішто так не турбуе звычайнага гарадзкога жыхара, як праблема бытавога сьмецьця. Зараз каля Менску існуе тры палігоны, а па-просту звалкі, куды з усяго гораду звозяць адыходы. За год іх набіраецца каля 400 тысячаў тон. Лішне казаць, які там шмон стаіць. А калі падзьмухне лёгкі вецярок, то жыхарам суседніх раёнаў ад гэтых благавоніяў урбаністычнай цывілізацыі наогул дыхаць нельга. Да таго ж і ўсялякага роду інфэкцыі там сустракаюцца значна часьцей. А ўсё з-за таго, што пры ўтылізацыі выкарыстоўваецца стары мэтад – сьцісканьне. Гэта калі бульдозер езьдзіць па версе і трамбуе.

Але ў гэтай сытуацыі абрысавалася паляпшэньне. Вядомыя сваёй чысьцінёй немцы маюць намер пабудаваць да 2007 году ў Менску завод па пераапрацоўцы цьвёрдых бытавых адыходаў. У дадзены момант Міністэрства аховы навакольнага асяродзьдзя і Менгарвыканкам вывучаюць прапанову бізнэсмэнаў. Інвэстыцыйны праект ацэньваецца эканамістамі ў 35 мільёнаў эўра. І, што самае галоўнае, здольны прыносіць прыбытак. Вось вам і новы беларускі Клондайк. Прадпрымальная немчура можа намыць грошы з чаго заўгодна. Але існуе адная загвоздка, якая ўсяму можа перашкодзіць – наш мэнталітэт. Для нармальнага функцыянаваньня заводу патрэбна, каб кожны від сьмецьця зьбіраўся паасобку, як гэта робіцца ў той жа Нямеччыне. Для шкла – свая скрыня, а для паперы – свая. Адпаведна і ў шматпавярховых дамах трэба будзе рабіць асобныя сьмецьцеправоды. Штосьці слаба верыцца, што хтосьці будзе замарочвацца на такіх дробязях. Хутчэй за ўсё кінуць агулам. Як гаворыцца, усё роўна сьвіньням. Так што замежныя інвэстары рызыкуюць абанкроціцца, яшчэ ня ўклаўшы грошы ●

**Вася Залатароў,**
асэнізатар

### Акцыі

## Апазыцыя на прыдумкі здатная!

Акцыі апазыцыі (ня тыя, не папяровыя, а ў сэнсе мерапрыемствы) даўно заслужылі сымпатыі беларусаў за іх пастаянства і «шырокі» размах. «За лепшае жыцьцё!», «Пераменаў!», «Беларусь у NATO» – надоўга запомніліся аматарам палітычных шоў пад адкрытым небам: варанкі, АМАП, хапуны. Проста карнавал нейкі, першамай ды й толькі. Чарговае вынаходніцтва з сэрыі: як нам хутчэй дайсьці да ручкі, альбо ціпа «я ведаю, чаго нам не хапае!» належыць пяру няўрымсьлівых рэфарматараў з АГП. Яны сьцьвярджаюць, што гэта – новы Прэзыдэнт. Такую назву мае новая кампанія АГП – «Беларуси нужен новый президент». Два гады таму мы бачылі гэтага «новага» – цяпер відаць трэба казаць «Навейшага», каб не было непатрэбнай блытаніны. Але добра, што хоць нехта ўрэшце рэшт здагадаўся, што патрэбна краіне – ня газ, не марскі порт і не замежныя інвэстыцыі з абавязковым далучэньнем да імпэрыі МакДональдз. Аказваецца, проста патрэбны новы прэзыдэнт. Конгеніяльна, сказаў бы Астап Ібрагімавіч. Узгадваецца, як калісьці даўно мышы правялі нараду, як пазбавіцца ад ката і вырашылі прывязаць яму на шыю званочак, каб пачуць яго набліжэньне. Праблема была ў тым, хто будзе прывязваць. Кампанія «Новы прэзыдэнт» без прэзыдэнта – гэта як рагу з зайца бяз зайца.

**Мікола Стаўрогін**

# АпОшні званОк

Усе добра памятаюць, як у першую чачэнскую вайну барадатыя вахабіты далі прасраццa расійскім фэдэралам. А ўсё з-за таго, што партызаны пад кіраўніцтвам Басаева ўжо тады бегалі па гарах не са старымі савецкімі рацыямі ўзору 1967 году, а з самымі наварочанымі мабільнікамі. Тактычная і стратэгічная перавага відавочная. Трэба рабіць высновы. І кіраўніцтва беларускай арміі, здаецца, добра зразумела гэтую акалічнасьць. Цяпер і нашыя абаронцы будуць крочыць у нагу з усім прагрэсіўным сьветам. Ва Ўзброеных Сілах Беларусі распачалася рэалізацыя пляну мадэрнізацыі сыстэмы сувязі, якая разьлічаная аж да 2010 году. Плянам прадугледжаная распрацоўка прынцыпова новых сродкаў сувязі і закупка сучасных узораў тэхнікі. Да гэтай далёкай даты ваякі павінныя цалкам перайсьці на лічбавую сувязь. Стаўка ў гэтай рэформе зробленая на айчынныя прадпрыемствы, якія ў савецкія часы ўваходзілі ў лік вядучых абаронных заводаў краіны. Зараз там распрацоўваюцца найноўшыя сыстэмы, якія па сваіх якасьцях пераўзыходзяць заходнія




аналягі. У гэтым годзе лічбавая сувязь будзе наладжаная ў Міністэрстве абароны, а таксама ў штабах і ў апэратыўных камандаваньнях. А да запаветнага 2010 году і ў кожнай казарме новенькія тэлефоны паставяць, каб салдацік мог у любы момант маме патэлефанаваць. А там ужо і да мабільнікаў недалёка ●

**Альбэрт Бэл,**
старэйшы прапаршчык

# Чысьціня – залог здароўя




У адным зь мінулых нумароў мы пісалі пра намер пабудаваць каля Менску кінатэатар для аўтаўладальнікаў пад адкрытым небам. Адзначалася, прынамсі, тое, што ён можа стаць месцам паломніцтва аматараў патрахацца на прыродзе. І вось новы факт. Гэтым летам у зонах масавага адпачынку вакол Менску будуць пабудаваныя душавыя кабіны. Як вядома, цёплае надвор'е, вада, пляж і сотні напаўапранутых цел вельмі ўзбуджальна дзейнічаюць на арганізм. Адзінае, што да гэтага часу стрымлівала прагнучых каханьня юнакоў – гэта прысутнасьць вялікай колькасьці народу. Дык на табе! Усе ўмовы для разбэшчанай моладзі ствараюць. Распуста, садом і гамора працягваюць сваё пераможнае шэсьце па тэрыторыі нашай краіны і прыймаюць усё больш вычварэнцкія формы. Мала таго, кабінкі гэтыя не прастыя. Кожная душавая будзе абсталяваная цеплавэнтылятарам, рукамыйнікам, асьвятляльным прыборам і электранагравальнікам. Ня душ, а проста саўна-люкс. Так што мінет можна будзе страчыць у поўным камфорце. Засталося яшчэ толькі пасадзіць туды масажыстку і касіршу, каб білеты на вячэрні сэанс прадавала. Карацей, атрымоўваецца, як у старым анэкдоце: «Гогі, пайшлі ў лазьню, заадно й памыемся» ●

**Леанід Рашаль,**
ПЭДЫЯТАР-ГАМЭАПАТ

# Як пасееш, так і пажнеш

## *Дажынкі пачынаюцца ўвесну*





***Ад пасяўной да дажынак – тры кароткіх летніх месяцы, за якія трэба пасьпець адрамантаваць усю тэхніку.***

Самым цікавым відовішчам на мінулым тыдні стала чарговая сэлектарная нарада Аляксандра Лукашэнкі па пытаньнях пасяўной кампаніі. Не прайшло і тыдню пасьля штогадовага звароту да парлямэнту, дзе хлопчыкамі для біцьця былі дэпутаты ПП НС РБ, як чарговую порцыю бярозавай кашы атрымалі вэртыкальшчыкі ўсіх масьцей. Людзі, як прыкаваныя, сядзелі ля экранаў тэлевізараў. І было дзеля чаго. Вобразна гэтую дзею можна назваць «Сьвірэпы тыгр і разьюшаны дракон». Дасталося ўсім. І за фактычна сарваную пасяўную, і за вайну ў Іраку, і за высокія камунальныя плацяжы.

Варта толькі прывесьці цытату, і стане зразумела, якое значэньне мае для Беларусі сяўба.

«Эти трудовые коллективы и руководители думают, что президент кулаком стукнет, кто-то приедет и раздаст им какие-то деньги, и они будут спокойно приходить к 12 на работу, в 4 часа эту работу заканчивать и спокойно попивать самогон и лежать под забором... Но у нас демократическое государство — право каждого выбирать, где лежать и что пить. Главное, чтобы закон не нарушали в этом плане, за нарушение будете нести ответственность. Но я хочу, чтобы вы понимали, что под забором картофель, зерно не растут, и деньги там не получишь. Поэтому подумайте о том, как вы будете обеспечивать себя и свои семьи».

Што і казаць, слушная думка. Складваецца ўражаньне, што гэтая прэзыдэнцкая тырада адрасаваная не кіраўнікам калгасаў і саўгасаў, а калектыву газэты *Навінкі*, так трапна прэзыдэнт разгадаў працоўны графік і любімы напой нашай рэдакцыі.

Акрамя таго дадзена заданьне ў гэтым годзе сабраць 6,5 мільёнаў тон зерня. І зразумела, ніякага бясплатнага паліва, а галоўнае – пасяўную ў любым выпадку трэба завяршыць да 15 мая, інакш... ●

**Працяг тэмы на стар. 16.**

# Скраў-выпіў – сядзі дома! Ніякай рамантыкі!



**Прайшлі тыя часы, калі пасуджаных адсылалі ў «места не столь отдаленные». Яны ішлі па этапу і сьпявалі сумныя катаржанскія песьні. Калісьці гэта рабілася з мэтай асваеньня далёкіх паўночных і ўсходніх ускраін вялікай імпэрыі. Цяпер гэта нявыгадна – кагосьці кудысьці везьці, карміць... Выйшаў спэцыяльны дэкрэт, дзе абумоўлена будаўніцтва спэцыяльных арыштных дамоў, дзе мяркуецца ўвесьці ў эксплюатацыю арыштныя дамы не пазьней за 31 сьнежня 2006 года. Плянуецца скончыць будову арыштных дамоў у Веткаўскім раёне Гомельскай вобласьці ў сувязі з пастанаўленьнем Савета міністраў ад 31.08.2001№1317 «Аб зацьвярджэньні Дзяржаўнай праграмы ўдасканаленьня крымінальна-выканаўчай сыстэмы Міністэрства ўнутраных спраў на 2001–2005 гады». Таксама плянуецца будова такіх дамоў у Магілёве, Віцебску, Мазыры, пасёлку Гезгалы Гарадзенскай вобласьці, а таксама рэканструкцыя пад арыштны дом корпусу ў выхаваўчай каленіі – пасяленьні ва ўрочышчы Шубіна. Арыштанты такім чынам будуць адбываць пакараньне па месцу жыхарства. Не сакрэт, што ў такіх месцах пазбаўленьня волі дзяржава будзе выкарыстоўваць танную працу зьняволеных, што можа азначаць ўваскрэшаньне сталінскага ГУЛагу ў мініятуры ●**

**Дацэнт**

## ФОтатЫдзень

# Калі б фотка магла гаварыць




**У той час як Кітай пакутуе на атыповую пнэўманію, з-за чаго нават быў адменены сусьветна вядомы Шанхайскі аўтасалон, у Менску адбылася выстава «Аўташоў-2003. Выстава запомнілася паказальнымі выступленьнямі ўсходніх адзінаборцаў, а таксама дзяўчынамі ў бікіні, якія стаялі ля кожнага стэнду.**




**У Менск прыехалі славутыя шэдэўры Трэцякоўскай галерэі. Паглядзець на карціны прыйшоў сам мітрапаліт Філарэт. А на днях выставу наведае сам прэзыдэнт.**




**На гэтым тыдні ў Вярхоўным судзе пачаліся слуханьні па гучнай справе былога дырэктара МТЗ Міхаіла Лявонава, які быў арыштаваны ў студзені 2002 году пры спробе зьехаць у Расею. Абвінавачваецца ён у крадзяжы ў асабліва буйных памерах.**




**Амэрыканскія марскія пехацінцы ў Іраку знайшлі каля 700 мільёнаў даляраў. Пасьля гэтага чацьвёра марпехаў былі арыштаваныя за спробу скрасьці 1 лімон.**




**Адначасова з лігай чампіёнаў у Беларусі прайшлі чвэрцьфінальныя матчы па футболе на кубак краіны. Праз адборачнае сіта ўдалося прайсьці самым мацнейшым, а менавіта, менскім Лакаматыву і Дынама, а таксама бабруйскай Белшыне і Гомлю.**

# АТЫПОВАЯ ВАЙНА

## альбо сындром Альбэра Камю ў беларускіх СМІ

**На першы погляд, дзіўнае супадзеньне. Эпідэмія атыповай пнэўманіі ўскалыхнула «сусьветную грамадзкасьць» амаль сынхронна з вайсковай апэрацыяй у Іраку. Сёньня яна паступова выціскае Садама Хусэйна зь першай пазыцыі хіт-параду мэдыя-жахаў міжнароднага маштабу. І не выпадкова. Як паказвае аналіз асьвятленьня абодвух падзеяў у СМІ, паміж цяжкім вострым рэспіраторным сындромам (ЦВРС) і ўжо былым ірацкім рэжымам існуе глыбокая сувязь. Гэты каітус вайны і эпідэміі можна было б ахрысьціць «сындромам Камю».**






У сваім славутым творы «Чума» пясьняр францускага экзыстэнцыялізму Альбэр Камю неяк параўнаў Другую сусьветную вайну і нашэсьце фашызму зь бязьлітаснай і абсурднай эпідэміяй бубоннай чумы, што паводле фабулы твору навалілася на бездапаможных абывацеляў ціхага гораду на поўначы Алжыру. Зараз усё адбываецца з дакладнасьцю наадварот. Сучасныя поп-камю – сродкі масавай інфармацыі – падаюць пандэмію невядомага насмарка-мутанта ў жанры вайсковай хронікі амэрыкана-ірацкага канфлікту. У хроніцы атыповай пнэўманіі ёсьць усе адпаведныя фігуры:




А) здымкі вайсковых аб'ектаў праціўніка з касьмічнага спадарожніка і растыражаваная па тэлеканалах сьвету рэпрадукцыя віруса пад мікраскопам;






Б) разнастайныя вайсковыя экспэрты (адстаўныя генералы, усходазнаўцы і гісторыкі ў выпадку ірацкай вайны), якія забіваюць тэлеэфір, даючы ўзаемасупярэчлівыя тлумачэньні і прагнозы, і чыноўнікі Сусьветнай арганізацыі аховы здароўя (САЗ), галоўурачы бальніц, работнікі турыстычных агенцтваў ды мытнікі – наконт эпідэміі атыповай пнэўманіі;

В) рэпарцёры з поля боя, што рызыкуюць уласным жыцьцём і, не зважаючы на меры перасьцярогі, нясуць праўду вайны (гэта спэцыяльныя карэспандэнты, напрыклад Інэса Плескачэўская, уласны карэспандэнт *Советской Белоруссии* ў Кітаі, якая напісала: *«Мой шанс как жителя Пекина заболеть атипичной пневмонией - один из десяти тысяч. Выходя из дома без маски, думаю ли я о том, что сегодня могу оказаться в больнице, а там попасть в те 4,3 процента пациентов, умирающих от новой болезни? Положа руку на сердце – нет, не думаю»*, з-за чаго кожны чытач адчувае прыліў патрыятызму і гордасьці за адважную суайчыньніцу.);

Г) фігура асаджанага горада, з такімі яго элемэнтамі, як камэнданцкі час, недахоп правізіі, здраднікі, даносы і г.д., і апісаньні каранціны, дэзэрцірства спужаных эпідэміяй санітарак і заахвочваньні даносаў на хворых суседзяў з боку ўладаў Кітая, прычым ня мае значэньня, які з элемэнтаў зьяўляецца сапраўдным ці ўяўным. Напрыклад, паліцыя Ганконгу арыштавала падлетка, які распаўсюдзіў па Інтэрнэце чуткі, што ўся правінцыя будзе пераведзена ў стан поўнага карантыну, выклікаўшы паніку сярод насельніцтва і чэргі ў супэрмаркетах ;

Д) хвалі ўцекачоў, што церпяць лішэньні, каб выратаваць сябе ад жахаў вайны, і замежныя турысты і работнікі камэрцыйных прадстаўніцтваў, што ў чаканьні мэдыцынскага кантролю ўтвараюць у міжнародных аэрапортах штосьці кшталту лягераў бежанцаў, галодных і злых;

Е) ваеннапалонныя, твары якіх закрытыя анучамі паводле Жэнэўскай канвэнцыі і памешчаныя на карантын хворыя з марлевымі павязкамі на тварах;






Ж) нарэшце, вобраз Ірака, які пакутуе ад манструознай тыраніі, але няздольны супрацьстаяць дэспату, і таму міжнародная супольнасьць – спачатку інспэктары ААН – імкнецца на дапамогу, і небарака Кітай – галоўны ачаг эпідэміі, якой улады краіны ня могуць даць рады іначай як хаваючы трупы ад экспэртаў Сусьветнай арганізацыіі аховы здароўя. Гэта ў сьвеце. У беларускіх СМІ гэтую сувязь паміж вайной і эпідэміяй нават не хаваюць. Погляд на хваробу ў айчыннай прэсе цалкам узнаўляе палітычныя дэбаты ўлада-апазыцыя наконт вайны ў Іраку. Паводле афіцыйнай вэрсіі (артыкул *СБ* «Нетипичное воспаление»), у Пэкіне, як і некалі ў Багдадзе, усё спакойна, улады нікога не баяцца і трымаюць сытуацыю пад кантролем, а г.зв. эпідэмія – варожая прапаганда. А наконт Іраку: *«Громко заговорили об атипичной пневмонии лишь одновременно с началом войны в Ираке. Что это - простое совпадение или целенаправленная политика? Если посмотреть сегодняшние выпуски новостей и почитать газеты почти всех стран мира, то вопрос насчет совпадений отпадет сам собой - уже почти забылось, сколько мирных иракских жителей погибло вовсе не от вируса, а от гораздо более смертоносного оружия».*




Апазыцыйнае бачаньне атыповай пнэўманіі таксама тыповае, але тут вайна існуе ў выглядзе тонкай алюзіі. «Нетипичная пневмония и Садам в Беларусь не залетали», гэткі загаловак артыкулу нейкага Захара Тузава, што жыве ў Інтэрнэце па адрасу www.naviny.by, прычым, акрамя загалоўка, у артыкуле няма ані слова пра Басру, Хусэйна, пераходную адміністрацыю Мэсапатаміі ці штосьці такое, што нагадвала б Ірак. Ён як бы проста маецца на ўвазе...

І гэта не канец. Мутацыя вірусу «тэрарызму бэн Ладэна», які паволі эвалюцыянаваў у бактэрыю «зброі масавага паражэньня Садама», які, у сваю чаргу, потым распаўсюдзіўся па сьвеце ў выглядзе бацылаў каронавірусу ЦВРС, працягваецца. Эпідэмія атыповай пнэўманіі нядаўна атрымала дадатковых канкурэнтаў на ганаровую пасаду ЖАХ №1. Да нас ідзе, таксама з Кітаю, таямнічы «курыны грып» H5N1, які, паводле сьведчаньняў САЗ, ня мае ніякага дачыненьня да ЦВРС. Тым ня менш, калі новая балячка стане папулярнай, можна быць упэўненымі ў падабенстве яе асьвятленьня ў СМІ з чарговым галоўным міжнародным ворагам ЗША. Застаецца спадзявацца, што не зь Беларусьсю ●






**Доктар Хадоркін**

# Інвэстыцыі па-беларуску

## *Каго зьбіраюцца крэдытаваць заходнія фінансавыя варацілы ў Беларусі*

Кожнаму сабаку сёньня вядома, што інвэстыцыі – кроў сучаснай капіталістычнай эканомікі. Як казаў адзін антычны мудрэц, «Згубім інвэстыцыі – будзем хадзіць п'яныя і дурныя». Таму нездарма беларускі ўрад паставіў сваёй задачай прыцягнуць у бягучым годзе ў эканоміку Беларусі аж 1,5 мільярды зялёных, што ўтрая больш за рэальныя паказчыкі разводу замежных ракфэлераў у 2002 годзе. Аднак апошнія, па ўсім відаць, досыць своеасабліва бачаць пэрспэктывы беларуска-замежніцкага інвэстыцыйнага супрацоўніцтва.




Як стала вядома *Белорусскому Рынку* напрыканцы красавіка, у сакавіку на разьведку ў Менск прыяжджаў Эдвард Насім, дырэктар дэпартамэнту Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы Міжнароднай Фінансавай Карпарацыі (International Financial Corporation, IFC) – філіяла Сусьветнага Банку і адной з буйнейшых кантор па пытаньнях адсьцёгваньня «інвэстыцыяў» і башляньня крэдытаў у сьвеце. Нагадаем, што дагэтуль IFC, па-нашанску МФК, цягам 10 гадоў праводзіла ў нашай краіне г.зв. праграму тэхнічнай дапамогі, мэтай якой была падтрымка ў Беларусі прыватных малых і сярэдніх прадпрыемстваў. Цяпер жа МФК сасьпеў для таго, каб рэальна ўкінуць бабла ў беларускую эканоміку. Здавалася б, прэм'еру Навіцкаму можна карагоды вадзіць: маўляў, папалася рыбка.

Аднак радасьць гэтая можа аказацца мімалётнай, калі зазірнуць у арганайзэр Э.Насіма й даведацца пра рэальныя інвэстыцыйныя пляны МФК у Беларусі.

А даведацца з Насімавых каракуляў можна вось пра што. Аказваецца, МФК разглядае магчымасьць інвэстыцыі 2,5 мільёнаў даляраў у... акцыянэрны капітал дачэрняга прадпрыемства амэрыканскай (!) кампаніі «ЭПАМ Сыстэмз», што займаецца распрацоўкай і вытворчасьцю праграмнага забесьпячэньня. Другая інвэстыцыя ў выглядзе крэдыту сьвеціць «Пріор-Банку», сувязь якога з амэрыканскімі фінансавымі цэнтрамі пакуль што не ўстаноўленая.

Такім чынам, інвэставаць свае кроўна зробленыя баксы МФК зьбіраецца не ў які-небудзь абарыгенскі «Азот» або «Гарызонт», а ў нармальныя філіялы «сваіх» кампаніяў, перакладаючы, вобразна кажучы, з адной кішэні тых жа трусоў у другую. Бо не сакрэт, што асноўныя ўнёскі ў капітал Сусьветнага Банку і МФК (а таксама МВФ) робяць заходнія краіны на чале з ЗША. А па правілах гэтых, прабачце за выраз, «міжнародных» арганізацыяў, права голасу проста прапарцыйна працэнту фінансавага членскага ўнёску ў кантору. Вельмі лёгка можна ўявіць сабе далейшыя дзеяньні замежных інвэстыцыйных цэнтраў у Беларусі ў паважным пачыне па «дапамозе разьвіцьцю краіны» (афіцыйна дэкляраваная мэта Сусьветнага Банку).

Напрыклад, наступным суб'ектам народнай гаспадаркі, што атрымае гуманітарныя інвэстыцыі, будзе «МакДональдс», які выкарыстае ўпаўшыя зь неба грошы належным чынам: скупіць усе сталоўкі й забягалаўкі ад Менску да Чучавічаў і адчыніць свае філіялы ў кожным калгасе. Цяпер замест абеду ў поле мэханізатарам будуць цягаць комплекс «Мак-Фрэш» або «Хэпі-Міл». За «МакДональдсам» неабходна будзе праінвэставаць ягонага газіраванага партнэра – «Кока-Колу». І тады да ўжо існуючых «Бурацінаў» і «Дзюшэсаў» вытворчасьці The Coca-Cola Company дадасца мінэральная вада «Мінская-4». Далей наступіць чарга й іншых амэрыканскіх філіялаў і дачэрніх прадпрыемстваў. У Беларусь рынуцца й іншыя амэрыканскія кампаніі, якія, абслухаўшыся афіцыйнай прапаганды Белага Дому, не наважыліся былі зьявіцца пры двары страшнага ўсходне-эўрапейскага сатрапа...

Так што, зьедлівыя камэнтары аглядальнікаў *Белорусского Рынка* наконт завышанага маштабу інвэстыцыйных плянаў ўраду можна сьмела праігнараваць: у Беларусь прыцягнуцца не паўтары, а цэлых тры-чатыры мільярды баксаў! А вось ці прыйдуць яны ў тутэйшы «малы і сярэдні бізнэс», які нібыта падтрымлівае МФК, можна яшчэ пасумнявацца ●

# Кармі сваіх!

### Такімі вось павучальнымі коміксамі зь дзяцінства пужаюць у Амэрыцы будучых фінансавых інвэстараў



# Таворыць Скаруліс...

### Агляд айчыннай аналітыкі беларускім палітэмігрантам са Швайцарыі і Бэльгіі



Нашым вамбатам пяра і мафіёзам фарса ў свабодзе самавыяўленьня можна толькі пазайздросьціць. У Бэльгіі рэзаць праўду-матку перашкаджае «паліткарэктнасьць» – ня дай Буда пакрыўдзіць якую-небудзь нацыянальную меншасьць ці сэксуальную большасьць. А беларускім акулам газэтнай паласы і хімія ня страшная. У чым прычына? Няўжо сапраўды маем свабоду прэсы? Калюмніст *Белорусского Рынка* Канстанцін Скуратовіч лічыць, што справа ў іншым:




Відавочна, што там, дзе газэтнае слова страціла свой уплыў на грамадзтва (калі ўвогуле яго мела), газэтныя босы ідуць на самыя розныя хітрыкі, каб прывабіць чытачоў, калі не праўдзівай і аб'ектыўнай сэнсацыяй, то якой-небудзь арыгінальнай трактоўкай. Рэдактар *Нашай Нівы* Андрэй Дынько займеў у апошні час аж два супрацьлеглых погляды – зьлева і справа, дужа рызыкуючы зарабіць прафэсійную касавокасьць. За левае вока адказвае Лёлік Ушкін, які зараз калясіць па Эўропе. За правае – таксама вядомы Паўлік Севярынец, які не падзяляе энтузіязму змагароў за мір.




Як кажуць, скажы мне, хто твае сябры, і мы скажам табе, хто ты сам. Тацяна Сулімава таксама завяла размову пра сяброўства – паміж жанчынамі:




З газэты *Отдыхай* мы ўжо даведаліся, што муж Тацяны Сулімавай ня П'ер Брансар, але відавочна, што цяпер Тацяна ведае яшчэ аднаго францускага пісьменьніка. Падумаць страшна, што будзе, калі яна даведаецца, што яе муж – не Бадуэн дэ Куртэнэ і не Жан-Клод ван Дам!

Калі калюмністка Саўбелкі пасьпела выскачыць замуж, то нашай краіне замуж – позна, здохнуць – рана.

Подобная дилемма, приходящая на ум перезрелой девице, «стоящей у ресторана», неизбежно всплывает в памяти при оценке нынешних перспектив отечественной внешней и внутренней политики. «Замуж» в современной ситуации предполагает органичную интеграцию в какие-либо международные структуры, «сдохнуть» - утрату государственного суверенитета.

Вось так. Відаць, ня першы раз замужам ●

**Арсень Скаруліс,**
палітуцякач

**17 красавіка ААН прыняла чарговую рэзалюцыю наконт парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. На гэты раз мы апынуліся ў цёплай кампаніі права(чалавека)парушальнікаў разам з Кубай, Дэмакратычнай Рэспублікай Конга ды Бурундзі. Сама фабула нашага абвінавачаньня не вызначаецца арыгінальнасьцю і ўжо пасьпела набіць аскоміну ня толькі ў дзеячоў бравай беларускай апазыцыі, што шугаюць партрэтамі Ганчара ды Завадзкага выпадковых наведнікаў парку Дружбы народаў у Менску. ААНаўскія чыноўнікі ня сталі вынаходзіць ровар і запатрабавалі ад беларускага ўраду расьсьледаваньня фактаў зьнікненьня й забойства людзей, аддаць пад незалежны суд усіх віноўных, спыніць перасьлед недзяржаўных арганізацыяў і палітычных партыяў этцэтэра, этцэтэра. Прадстаўнік Беларусі ў ААН Сяргей Алейнік спрабаваў быў нешта вякнуць у тоне пратэсту, маўляў, увесь тэкст рэзалюцыі цалкам палітычна зматываваны, прыпомніўшы пры гэтым Злучаным Штатам агрэсію ў Іраку, аднак вынік галасаваньня быў неўмалімы: 23 прадстаўнікі выказаліся за прыняцьце рэзалюцыі ў дачыненьні Беларусі, 14 – супраць (сярод іх акрамя, вядома, Расеі, братэрскае плячо нам падставілі Зымбабвэ, Свазылэнд і Лівійская Арабская Джамахірыя) і 16 краінаў паўстрымаліся ўлазіць у праблемы невядомай усходнеэўрапейскай краіны. Найбольшую цікавасьць для нас, што ня дзіўна, выклікае склад антыбеларускага лягеру. Акрамя заўсёднікаў – ЗША і краінаў Заходняй Эўропы – у кагорце барацьбітоў за дэмакратыю й правы чалавека ў Беларусі апынуліся краіны, якія яшчэ нядаўна былі славутыя сваімі крыважэрнымі аўтарытарнымі дыктатурамі: Чылі (Піначэт), Паўночная Карэя (цэлая банда генэралаў-дыктатараў) ды Харватыя (усташ Туджман). Тут жа фігуруюць Пэру, турмы якой да рвоты забітыя палітычнымі вязьнямі, і Мэксыка, дзе карэннае індзейскае насельніцтва фактычна пазбаўленае грамадзянскіх правоў і дзе ў знакамітым штаце Чыяпас дасюль палыхае паўстаньне сапатыстаў. Аднак яшчэ цікавей, што заклапочанымі лёсам Захаранкі і Ко аказаліся такія даволі экзатычныя краіны, якіх ня проста назваць дэмакратычнымі язык не павернецца. Мяркуйце самі.**

# Чыя б кар






**РЭСПУБЛІКА КЕНІЯ**
**Сталіца – Найробі. Насельніцтва – 29 млн. чалавек (1998). Гарадзкое насельніцтва – 24%, сельскае – 76%. Плошча – 582,6 тыс. кв. км. Асноўныя мовы: ангельская, суахілі (афіцыйныя), кікую, луо. Асноўныя рэлігіі: каталіцтва, пратэстанцтва, мясцовыя традыцыйныя вераваньні, іслам. Грашовая адзінка: кенійскі шылінг = 100 цэнтам. Нацыянальнае сьвята: Дзень незалежнасьці – 12 сьнежня. Дзяржаўны гімн: «О Бог, ты наша сіла».**

## **КЕНІЯ**: Пяць тэрмінаў героя дэмакратыі

Вось каму-каму, а гэтай афрыканскай краіне даўно ўжо не ўсяроўна, што там адбываецца ва Ўсходняй Эўропе. З зайздросным пастаянствам Кенія ратуе за вадварэньне ў Беларусь правоў чалавека й дэмакратыі, галасуючы за ўсе рэзалюцыі ААН па Беларусі. Традыцыю гэтую заклаў кенійскі прэзыдэнт Даніэль арап Мої, які яшчэ пару месяцаў таму руліў Keніяй. Між тым палітычнай біяграфіі гэтага пэрсанажа можа пазайздросьціць сам Лукашэнка.

Даніэль арап Мої прыйшоў да ўлады аж у 1978 годзе пасьля сьмерці свайго папярэдніка – прэзыдэнта Кеніяты. Той яшчэ ў 1969 годзе ўсталяваў у Кеніі аднапартыйную сыстэму: уладу ў краіне мела КАНУ (Кенійскі Афрыканскі Нацыянальны Саюз), астатнія палітычныя партыі былі забароненыя. Хутка прыбраўшы ўсё да сваіх граблюк, Мої ўсталяваў аўтарытарны рэжым, зрэшты тыповы для краінаў Афрыкі. Спроба студэнцка-вайсковага мецяжу ў 1982 годзе з мэтай даць пендаля дыктатару скончылася масакрай і масавымі расправамі. Граючы на міжплемянным канфлікце паміж луо і кікую і выкарыстоўваючы інтрыгі, кенійскі правадыр неўзабаве стаў поўным валадаром краіны. Рэжым Мої быў наўсьцяж карумпаваны. Спакойна дацягнуўшы да пачатку 90-х, Мої не адразу зарыентаваўся ў сытуацыі, якая па зразумелых прычынах кардынальна зьмянілася. За што адразу атрымаў па шапцы. Падчас звычайнай разборкі з чарговым кенійскім Захаранкам «цывілізаваны» Захад нечакана паказаў зубы. У знак пратэсту супраць «нарастаючай жорсткасьці» рэжыму Мої Нямеччына адклікала свайго пасла з Найробі, а замежныя крэдыторы сталі аказваць фінансавы ціск на ўрад Даніэля арап Мої, каб той – падумаць толькі! – дазволіў дзейнасьць іншых палітычных партыяў. Мої, ня будзь дурны або Лукашэнка, ня стаў перапінацца з Захадам, і ў сьнежні 1992 году ў канстытуцыю краіны была ўнесеная адпаведная папраўка. І не дарма – за гэта яму дазволілі перамагчы на першых «дэмакратычных» выбарах. Далей-болей. У 1993 годзе ўрад Мої пагадзіўся на правядзеньне эканамічных рэформаў, да якіх яго даўно падштурхоўвалі Сусьветны Банк і МВФ. За паслухмянасьць тыя прадставілі Кеніі ў якасьці дапамогі значныя сродкі для абслугоўваньня зьнешняга доўгу, які дасягнуў 7,5 млрд. даляраў. Кенійскі бацька зразумеў лафу дружбы з Захадам: галоўнае – акуратна сьледаваць палітыцы фінансавых магнатаў, а па дарозе можна колькі ўлезе выціраць ногі аб «сьвятую карову» заходняй цывілізацыі –правы чалавека.

На прэзыдэнцкіх выбарах 1998 году, якія суправаджаліся шматлікімі актамі гвалту і парушэньнямі працэдуры выбараў, Даніэль арап Мої ўсенародна быў абраны на чарговы, 5-ты (!) тэрмін кіраваньня, які благапалучна й адбыў. І толькі палітычная неахайнасьць прывяла да таго, што Мої згубіў сваю прэзыдэнцкую сядушку: ён не забясьпечыў большасьць у парлямэнце для свай партыі КАНУ, каб зьмяніць канстытуцыю краіны. У выніку ў студзені 2003 году ён мусіў саступіць месца «дэмакрату» Мваі Кібакі. Аднак з прыходам новага гаспадара на кенійскае Карла Маркса-38 ні ўнутраная і ні, як мы змаглі пераканацца, зьнешняя палітыка ў Кеніі не зьмянілася ані на ёту. А «паверажаны» Даніэль арап Мої нечакана зьявіўся ў сонме герояў Кеніі ●

# ова мычала...

## ПАРАГВАЙ: Дэмакратызатары ў пагонах




**РЭСПУБЛІКА ПАРАГВАЙ**
**Сталіца – Асунсьён. Насельніцтва – 5,8 млн. чалавек (1998). Гарадзкое насельніцтва – 51%, сельскае – 49%. Плошча – 406,75 тыс. кв. км. Афіцыйныя мовы: гішпанская, гуарані. Пануючая рэлігія: каталіцтва. Грашовая адзінка: гуарані = 100 сэнтыма. Нацыянальнае сьвята: Дні незалежнасьці – 14–15 мая. Дзяржаўны гімн: «Парагвайцы, рэспубліка або сьмерць».**

Вядомая сваім парагвайскім чаем (матэ) і шматгадовай дыктатурай Альфрэда Стрэснэра, гэтая паўднёва-амэрыканская краіна таксама ўставіла свае пяць капеек у канчатковае вырашэньне беларускага пытаньня. Гісторыя ўсталяваньня дэмакратычных каштоўнасьцяў у Парагваі пачынаецца, паводле старой лацінаамэрыканскай традыцыі, з вайсковага перавароту. Прычынай яго паслужыла банальная незадаволенасьць у асяродзьдзі малодшых афіцэраў, якіх абурала асабістае ўмяшальніцтва Стрэснэра ў працэс прысваеньня вайсковых званьняў, і ў лютым 1989 году дыктатар-самадур быў вымушаны тэрмінова пакаваць чамаданы ў Бразылію.

«Дэмакратычныя пераўтварэньні» ўзначаліў кіраўнік перавароту, адзін з бліжэйшых паплечнікаў Стрэснэра, генэрал Андрэс Радрыгес. У маі 1989 году былі праведзеныя першыя «свабодныя» выбары, у якіх апазыцыйныя партыі чамусьці вырашылі ня ўдзельнічаць, і Радрыгес быў абраны прэзыдэнтам ад постстрэснэраўскай партыі «Каларада». Радрыгес паабяцаў перадаць у 1993 годзе ўсю ўладу ў рукі новага невасннага прэзыдэнта, а таксама абяцаў шырокія дэмакратычныя рэформы. Гэта выглядала па Пікасаўску абсурдна, калі ўлічыць, што ўрадавы апарат – чыноўнікі, судзьдзі, войска, паліцыя і г.д. – складаўся зь людзей, якія займалі свае пасады й да перавароту.

Гэтая спадчына эпохі дыктатуры немінуча праявілася падчас выбараў 1993 году, у выніку чаго пасаду прэзыдэнта заняў Хуан Карлас Васмосі, які карыстаўся адкрытай падтрымкай Радрыгеса і вайскоўцаў. У той час, пакуль дэпутат Лукашэнка хапаў за руку цьвікамана Шушкевіча, Васмосі ўжо ўва ўсю абкатваў перавагі «адміністрацыйнага рэсурсу»: вынікі першасных выбараў былі банальна падтасаваныя. У той сама час парагвайскім вячоркам і лябедзькам па старынцы засоўвалі палкі ў колы, часам у адкрытую парушаючы закон. У выніку дэмакратыя ў Парагваі трыюмфавала. Аднак у даволі своеасаблівым абліччы: пастаянная грамадзкая нестабільнасьць, спробы вайсковых пераваротаў, шэраг палітычных забойстваў і – фактычна нязьменнае панаваньне постстрэснэраўскай партыі «Каларада». У выніку такіх вось пэртурбацыяў прэзыдэнтам Парагваю ў 1999 годзе стаў Луіс Гансалес Макі. Аднак палітыка чарговага прэзыдэнта прывяла і так найбяднейшую краіну Лацінскай Амэрыкі ў стан поўнага г... Пачаліся масавыя пратэсты й маніфэстацыі, якія набылі такі размах, што ўлетку 2002 году ў краіне было ўведзенае надзвычайнае становішча: былі абмежаваныя шэраг грамадзянскіх правоў і павялічаныя правы паліцыі. У выніку падчас маніфэстацыяў за ўвесь час надзвычайнага становішча, якое пратрывала 3 месяцы, было забіта больш за дзясятак маніфэстантаў, сотні былі параненыя (што ўжо нам заікацца пра караля пікетаў Шчукіна?). Парлямэнт краіны ўвосені 2002 нават паспрабаваў быў пачаць працэдуру імпічмэнту, аднак знайшліся свае шарэцкія: кіруючая партыя «Каларада», сябрам якой зьяўляўся Макі, проста заблякавала прыняцьце вотуму недаверу. Аднак нават скрайняя непапулярнасьць Макі, у тым ліку і ў войску (тыя нават спрабавалі былі ўзбунтавацца), ня можа кардынальна зьмяніць сытуацыю. Акурат 24 красавіка ў Парагваі завяршылася перадвыбарчая прэзыдэнцкая гонка, лідэрам якой зьяўляецца аднапартыец Гансалеса Макі – Ніканор Дуартэ Фрутас. Цікава, што пераемнік Макі ў барацьбе за дэмакратычныя каштоўнасьці ў далёкай Беларусі, як адна кропля, падобны да свайго ўсходнеэўрапейскага апанэнта: Фрутас клятвенна паабяцаў свайму электарату, што ў выпадку яго перамогі на выбарах яны «будуць жыць у квітнеючай краіне», дзе прэзыдэнт «жорсткай рукой навядзе парадак і паставіць заслон карупцыі». Пагадзіцеся, што такі абаронца дэмакратыі больш адпавядае «нашаму разуменьню рэспублікі і ролі ў ёй прэзыдэнта», чым Фралоўскім ныцьцём «за лучшую жизнь» ●

## ШРЫ-ЛАНКА: Ці бываюць дэмакраты ў акопе пад агнём?

Перанясемся цяпер у падбрушша Індыі, дзе затаіўся яшчэ адзін саюзьнік беларускай апазыцыі. Што ж сабой уяўляе радзіма прынцэсы Нуры і Брук-Бонду? А сытуацыя на цудоўным востраве Цэйлон, у народзе Шры-Ланка, за дурманячым араматам сьвежай гарбаты таксама хавае шмат нюансаў, якія б маглі зацікавіць і тутэйшых праваабаронцаў.

І тут зноў не абыйдземся без параляляў. У 1994 годзе, акурат у час, калі Аляксандар Рыгоравіч ліха распраўляўся ў другім туры з Вячаславам Францавічам, на далёкім востраве на выбарах упэўнена перамагла кааліцыя папуліцкага кшталту «Народны Альянс», які абяцаў акрамя ўсіх іншых даброт вырашыць узброены міжэтнічны канфлікт паміж таміламі і сінгаламі, які трывае з 1983 году.

Патлумачым, што сінгальцы зьяўляюцца пануючым этнасам у краіне і здаўна намагаліся ўмярыць унтэрмэншаў-тамільцаў. Адпаведна, апошнім гэта не падабалася й яны патрабавалі права «людзьмі звацца». Сытуацыя ўскладнялася яшчэ й рэлігійным фактарам: сінгалы – будысты, а тамілы – індуісты. Выбух міжэтнічнага гвалту, які адбыўся ў 1983 годзе, прывёў да масавых антытамільскіх пагромаў, у выніку чаго некалькі соцень тамілаў былі забітыя, а тамільскія крамы й забягалаўкі разграмленыя. Адказам на наезд з боку сінгальскіх чарнасоценцаў стала паўстаньне, галоўную скрыпку ў якім граюць знакамітыя Тыгры вызваленьня Таміл Іламу. Канфлікт набыў такі размах, што ў яго нават умяшалася суседняя Індыя. Тамілы, якія ў прынцыпе абвесьцілі курс на незалежнасьць, запатрабавалі ад цэнтральных уладаў прызнаньня аўтаноміі, аднак сінгальскія нацыяналісты, сярод якіх асабліва вызначалася (ironія лёсу) Партыя Свабоды Шры-Ланкі, выказаліся рэзка супраць аўтаноміі, і канфлікт разгарэўся з новай сілай.

Цяпер застаецца толькі дадаць, што ПСШЛ зьяўляецца асноўнай часткай «Новага альянсу», які пудрыў мозгі выбарчыкам міратворчай рыторыкай. Дык вось, прыйшоўшы да ўлады, ПСШЛ увосені таго самага 1994 году перамагла на прэзыдэнцкіх выбарах – прэзыдэнтам стала Чандрыка Кумаратунге. Дарэчы сказаць, першым рашэньнем новаабранага прэзыдэнта было прызначэньне на пасаду прэм'ер-міністра... сваёй роднай маці! А ўвесну 1995 (акурат, калі ў Вярхоўным Савеце калбасілі Пазьняка і кампанію) баявыя дзеяньні на сінгала-тамільскім фронце, якія былі прыпыненыя часовым замірэньнем, пачаліся зноў. У 1997 годзе ўрадавая армія правяла шырокамаштабную вайсковую аперацыю супраць тамільскіх сэпаратыстаў, падчас якіх праводзіліся масавыя «зачысткі», былі спаленыя сотні тамільскіх хатыняў, тысячы людзей былі забітыя. Вядома ж, у сытуацыі татальнага тэрору й рэпрэсіяў цяжка спадзявацца на нейкае там захаваньне правоў чалавека. На выбарах 1999 году патрыятычная прапаганда без пытаньняў забясьпечыла Кумаратунге білет на другі прэзыдэнцкі тэрмін. Рэальны стан вайны (падчас аднаго з тэрактаў прэзыдэнтка пазбавілася аднаго вока) вызначаў і ўсю ўнутраную палітыку – былі абвешчаны курс а-ля «мачыцъ у сарціры». Незалежныя экспэрты ня раз адзначалі выпадкі парушэньняў правоў чалавека, асабліва на нацыянальнай і рэлігійнай глебе. Пад сінгальскую раздачу трапілі нават мясцовыя мусульмане, якія асабліва не суюць носу ў канфлікт: падчас пагромаў былі забітыя некалькі прававерных, разгромленая маёмасьць. У краіне некалькі разоў уводзілася надзвычайнае становішча.



Не забывала прэзыдэнт і пра рассаднік усякай скверны – парлямэнт, які быў благапалучна распушчаны ўлетку 2001 году. Спробы ж масавых пратэстаў былі хутка падаўленыя гумавай шрапнэльлю й сьлезацечным газам. У выніку такой пацыфікацыі некалькі сінгальцаў адправіліся на чарговае кола рэінкарнацыі, яшчэ сотня атрымала раненьні.



Апошні рапарт Азіяцкай групы па правах чалавека ў Шры-Ланцы быў складзены ў 2001 годзе і, як можна перакаанацца, не выпадкова. Акурат пасьля атакі 11 верасьня й крыжовага паходу Белага Дому супраць тэрарызму Шры-Ланка заняла свой пачэсны пасад у антытэрарыстычнай кааліцыі.

Праўда, амэрыканская дапамога аказалася не ахці (прыйшлося нават пайсьці на аднаўленьне перамоваў з «тыграмі»), аднак праваабаронцы маўчаць у парцянку. Відаць, у перапынках між «зачысткамі» тамільскіх вёсак і разгонам пратэстаў апазыцыі і прыгадала паважаная Чандрыка Кумаратунге пра простага беларускага хлопца Пашу Севярынца, якога перасьледуе тыран ●

**ДЭМАКРАТЫЧНАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА ШРЫ-ЛАНКА**
**Сталіцы: Шры-Джаявардэнапура (афіцыйная), Каломба – адміністратыўная. Насельніцтва – 18,3 млн. чалавек (1996). Гарадзкое насельніцтва – 22%, сельскае – 78%. Плошча – 64,65 тыс. кв. км. Афіцыйныя мовы: сінгальская, тамільская, ангельская. Асноўныя рэлігіі: будызм, індуізм. Грашовая адзінка: рупія = 100 цэнтам. Нацыянальнае сьвята: Дзень незалежнасьці – 4 лютага. Дзяржаўны гімн: «Вялікая маці Шры-Ланка».**

## КарЫсныя высноВы

**Такім чынам, шаноўны чытач, можна сабе ўявіць палітычнае аблічча змагароў за правы чалавека і дэмакратыю ў Беларусі. Аднак паціху прыходзіш да наступнай шалёнай думкі: усе вышэй апісаныя краіны, хоць і знаходзяцца на розных кантынэнтах і ў розных культурна-палітычных умовах – проста клоны краіны перамогшага рынкавага сацыялізму. А значыць, для таго, каб лічыцца больш-менш прыстойнай краінай у галіне правоў чалавека й дэмакратыі, зусім ня варта рваць попу і не мачыць свайго палітычнага апанэнта – трэба вадзіць патрэбныя знаёмствы!**

## ДавЕдка

### Звар'яцелыя ў лесе

*«У цёмную эпоху перад сусьветнай катастрофай у новага пакаленьня адзначаліся адхіленьні ў разьвіцьці, якія былі названыя «ралявымі гульнямі». На шчасьце для чалавецтва нехта адкрыў, што ралявыя гульні, шызафрэнія і падпісаньне крывёй дамоваў з Шатанам выцякаюць з адсутнасьці ў рацыёне некаторых харчовых элемэнтаў»*

*Гары Гарысан,*
*буржуазны пісьменьнік*
*(ЗША, канец 80-х мінулага стагодзьдзя).*

Апошнія два тыдні на вуліцах Менску часта сустракаліся людзі са значкамі, дзе на чорным фоне была намаляваная белая літара «У». Гэта не фанаты чарговага металічнага гурта. Па гэтай літары можна было безпамылкова пазнаць ролевых гульцоў, занятых ў гарадзкім праекце «Каінава пячатка».
Каб высьветліць, хто такія ралевікі і талкіністы, трэба хоць раз згуляць ў тое, што называецца ролевай гульнёй – гэта новы від хобі, папулярны ў вузкім коле маладых людзей. Гэтыя людзі ня любяць чужых. Яны ня любяць громкую славу. Таму пра іх амаль ніхто нічога ня ведае. У іхную тусоўку трапляюць па знаёмстве. Некаторыя застаюцца там на ўсё жыцьцё. Некаторыя зыходзяць праз паўгады. Гэта зачыненая, самадастатковая тусьня – кшталту шостай палаты ў РПБ «Навінкі».
Сэнс ролевай гульні – адыход, прыход, хапаньне глюкаў. Адыход у іншы сьвет, у новую рэальнасьць, як і з наркотыкамі. Апрананьне ў зялёнае ды беганьне ў хаератніках па лесе, размахваючы драўляным мячом – чым ня новая рэальнасьць? Чымсьці гэта падобнае на тэатар, толькі ўзровень паніжэй ды гуляюць толькі для асабістага задавальненьня. Яны бываюць:
***Талкіністы***. Звар'яцелыя фанаты, якія ташчацца ад сьвету Міжзем'я: эльфы, магія, сапраўдныя героі, драконы, гномы... Шмат якія «пісьменьнікі» спрабавалі напісаць працягі, але кожны з гэтых аўтараў толькі зноў перапісвае «Валадара пярсьцёнкаў» ці «Сыльмарыліён» і робіць гэта дрэнна. *Талкінутыя* па-рознаму ставяцца да гэтых маладых паперапэцкалак. Асобнае месца сярод хобіт-клонаў займае «Чорная кніга Арды» – эльфійскі варыянт «сатанінскай біблії». Таксама шмат сьмеху ды сьлёз выклікае творчасьць Пярумава (трылёгія «Пярсьцёнак цемры»). У яго нават памяркоўныя ды лагодныя «беларусы міжзем'я» – хобіты (якія таксама жылі на захадзе вялікай краіны) ператварыліся ў агрэсіўных ды крыважэрных ваяроў...
***Рэканструктары***. Самыя звычайныя рыцары. Вы што, рыцараў ня бачылі?
***Ралевікі*** – ну... Усе астатняе. Пайшло ад слова «роля». Сэнс зьявы ў тым, што чалавек выбірае для сябе ролю некага іншага (чалавека, эльфа, гнома, робата, мутанта, прэзыдэнта), які апынуўся ў канкрэтных абставінах. Пытаньне ў тым, што гэты чалавек* (зь ягоным характарам, тэмпэрамэнтам, наборам ведаў) зробіць на месцы сваёй ролі. Галоўная задача тут – забыцца, што ты Сярожа, Вова ці Аляксандар Рыгоравіч, і атрымаць максымум задавальненьня. Ёсьць выпадак, як нехта аднойчы адгульваў нават кандзелябар. Там, у кутку храма, яго і замачылі вялікім тапаром. А навошта – ніхто ня ведае.

**Іван Толкінаў**

# Спачатку былі хобіты...




## А гобліны былі пасьля

Пачалося ўсё, як ні цяжка гэта асэнсоўваць, з прафэсара Толкіна. Ужо каля 1987 году ў Расеі пачалі праходзіць гульні па «Валадару пярсьцёнкаў» – ХІ-шкі – расейская абрэвіятура ад назвы «Хобіцкія гульні». І туды пачалі наведвацца фанаты з усяго Савецкага Саюзу. Пачаткам жа руху на Беларусі можна лічыць 1992-1993 гады, калі нехта Бакаевы з Рэчыцы, панаведваўшы гэтыя самыя гульні ў Расеі і іншых краінах, вырашылі прынесьці гэтую заразу і сюды. І вось у 1994 годзе ў нашай краіне зьявіўся першы рыцарскі клюб, у якім




людзтва прысьвяціла свой вольны час рэканструкцыі мінулага. А ўжо ў 95-м у Менску ўзьнікае ўсім вядомы ордэн «Сэрца Дракона», што існуе зараз пад назвай «Ордэн Паўночнага Храму». Ён згуртаваў ля сябе наркаманаў, растаманаў ды ўсіх тых, хто цікавіўся фэнтэзі-літаратурай, гісторыяй ці проста жадаў зьбегчы ад рэальнасьці. Ад Ордэну потым адпупышкоўваецца чыста ралявы клюб з сучасная назвай «Дом Срэбранага Адзінарога», а на ордэне канцэнтруюцца людзі, якія больш любяць працаваць рукамі, чым галавой. Пасьля гэтага клюбы памнажаліся, нібыта кішэчнапалоастныя гідры: ад Адзінарога адсэктаваліся і рэканструктары «Унія Меч і Воран» і, набіраючы абароты, «Іўлятнік» і шмат іншых. Працэс працягваецца ●

**Агасфэр,**
**знаток мінулага**

# Гэта небясьпечна!

## Псыхолягі б'юць трывогу




Гульні, гульні... Нармальны чалавек будзе грошы зарабляць, а не гоблінаў мачыць. Зразумела, што ралевікі – у большасьці людзі з псыхалягічнымі праблемамі. Развіцьцё ўсіх сфэраў жыцьця на плянэце бесьперапынна паскараецца. З-за гэтага паскарэцца хуткасьць прыходу да нас пераменаў. І людзі павінныя заўсёды сачыць за гэтымі пераменамі, прыстасоўвацца да новага й разьвітвацца са старым (гл. Алан Тофлер, «Футурашок»). Гэта патрабуе вялікага напружаньня, цялеснай і духоўнай моцы. Тыя, хто ня здолеў пасьпець за навакольлем, кладуць на ўсё і пачынаюць шукаць сябе нешта асобнае. Карацей кажучы, не разумеюць яны нашага сусьвету. А мы ў адказ не разумеем шматлікіх іхніх. Але й самі гульні небясьпечныя. Вось чым:
А) *Загульваньне*. Здарaецца, некаторая асоба пачынае захоўваць памяць, настрой, рысы характару, характэрныя для пэрсанажа гульні, у якую яна гуляла. Гэтую праблему добра адлюстравала кінастужка з ЗША пачатку 80-х гадоў «Сутарэньні й драконы» з Томам Хэнксам. Іншая справа, калі з гульні выносяць добрыя рысы характару: гонар, волю, павагу да жанчын... Часам адносіны пэрсанажаў прыводзяць да сапраўдных шлюбаў: гэта самая небясьпечная форма хваробы!
Б) *Фізычнае траўмаваньне*. На гульнях са спарынгамі й масавымі бойкамі даволі часта здараюцца пераломы костак, пальцаў, траўмы галавы... Для некаторых гэта – прафэсійны гонар, для іншых – адкос ад арміі.
Канешне, псыхалягічныя праблемы – больш цяжкая рэч. Таму на вялікіх гульнях прысутнічае ды працуе спэцыяльная палатка псыхолягаў. А паламаная галава – яна гаіцца, гэта ж суцэльная костка! ●

**Жыгімонт Фрэйд**

# Маленькі гласарый ролевага руху

**Глюк** – левы чалавек, які выпадкова апынуўся на тэрыторыі гульні й ня мае да яе дачыненьня. Гэта можа быць паляўнічы, рыбак, грыбнік, лясьнік ( з апошнім складаней: ён, хоць і абы-якая, але ўлада). Для гульні гэты чалавек не існуе, і пэрсанаж гульні, размаўляючы з глюкам, лічыцца звар'яцелым, грамадзка небясьпечным і мусіць быць знішчаны.
**Гулец** – сапраўдны чалавек, грамадзянін РБ, які гуляе пэрсанажа. Удзельнік гульні. Той самы гіпатэтычны ралявік.
**Дайс** – звычайны гульнёвы кубік, ад 1 да 6, але бываюць і васьмілічбавыя, й дзесяцілічбавыя. Нават есьць дайс да ста – іх два на ўсю Беларусь.
**Джон Рональд Руэл Толкін** (1892-1973) – прафэсар філялёгіі, лінгвіст, этнограф, гісторык, паліглот, бла-бла-бла і трошкі пісьменьнік. Аўтар нашумелых мастацкіх твораў, першых прыкладаў жанру «фэнтэзі»: «Уладар Пярсьцёнкаў» (Lord Of The Rings) і «Хобіт, ці Туды і Назад» (The Hobbit). Ягоныя творы зрабілі сапраўдную рэвалюцыю ў галовах некаторых людзей (эльфаў?), нарадзілі такую зьяву, як «ралявік» і «талкініст». Ён – рассаднік заразы.
**Майстар** – галоўны ў гульні. Звычайна таксама аўтар. У кампутаровых ролевых гульнях майстар – кампутар, але ён абмежаваны фантазіяй распрацоўніка гульні.




Прыклад: па жыцьці вы ў стане забіць чалавека адламанай ад дрэва галінай ці задушыць падушкай. У кампутарнай гульні гэта немагчыма, калі не прадугледжана. У гульне з майстрам гэта – як нефіг.
**Мярцьвятнік** – тэрыторыя на гульлёвым палігоне, куды прыходзяць усе ўдзельнікі, пэрсанажы якіх загінулі. Там яны п'юць, паляць, ядуць, кахаюць...
**Палігон** – лясок, па якім бегаюць эльфы з драўлянымі мячамі. Месца правядзеньня палігоннай гульні.
**Прыкід** – «уніформа» ралевіка. У ідэале – рэканструяванае адзеньне, пашытае ўручную, па адпаведнай старажытнай мэтодыцы. Звычайна – «нешта прыблізнае», пашытае са звычайнай завесы. Дасьпех ці мужчынская рубаха, манаская раса ці голае расфарбаванае цела «звар'яцелага шамана» – гэта ўсё прыкіды.
**Пэрсанаж** – роля ў гульні. Тая самая істота, якую адгульвае ралявік. Прадстаўнік іншай разумнай расы, робат, магічнае стварэньне ці нават простая жывёліна – карацей кажучы, усё, у скуры чаго пагадзіцца пабываць ралявік ●

# Размоўнік орчай гаворкі



Прапануем вашай увазе сродак выкываньня падчас глыбокага пагружэньня ў сьвет фэнтэзійных стасункаў.
*Хыр* – мужчына.
*Лядзь* – жанчына;
*урукглядзь* – арчыха.
*Хыр лядзь* – сям'я, супругі.
*Ба* – высокі, магутны.
*Ня* – рэч, прадмет; узяць, аддаць.
*Гым* – думаць.
*Гым ня* – кніга, рукапіс.
*Гым нюк* – навукоўца, мудрэц.
*Гым няр ня* – бібліятэка.
*Гыр* – так, канешне, крута.
*Быр* – не, дрэнна.
*Пыц* – любое дзеяньне над кімсьці або чымсьці.
*Дэт* – сьмерць, сон.
*Пыц дэт* – гвалтоўная сьмерць і баявы покліч оркаў.
*Ты гы дым* – рух і наогул любое дзеяньне.
*Хаш* – мяса, мярцьвяк.
*Ю* – усе адценьні чырвонага.
*Пі* – любая безалькагольная вадкасьць.
*Ю пі* – кроў.
*Пі пі* – тое, што вылецца з орка і іншых.
*Дык* – алькагольныя напоі і нецьвярозы стан.
*Хыр дык* – п'яніца, яна – дык лядзь.
*Оп па* – зьдзіўленьне.
*Ха а ра* – самы-самы камлімэнт у оркаў.

### Сем стадыяў талкінізму:

1. Прачытаў – спадабалася.
2. Талкінуўся сам – талкіні іншага.
3. Ішоў па лесе – убачыў хобіта.
4. Мечамашцы! Уперад, за Нумэнор!
5. Пішу вершы на роднай эльфійскай мове.
6. Толкін ня меў рацыі, я вам распавяду, як было на самой справе.
7. Вылечыўся. Талкіністаў ненавіджу. Яны ў нас гуляюцца.

# Кінашулер вяртаецца

## *Чаго новенькага можна будзе схапіць са стала сінэфага*

Не зьяўляецца ні для каго тайнай, адкуль пайшоў амэрыканскі рэжысэр, сцэнарыст і актор Квэнцін Таранціна. Перад тым як распачаць сваю кінакар'еру, гэты чувак гады чатыры працаваў у відэапракаце, паглынаючы з паліцаў усе без разбору відэафільмы: і «высокія» і «нізкія», проста да якіх маглі дацягнуцца яго гарэзьлівыя рукі. Інтаксыкацыя арганізму не прымусіла сябе чакаць, і ў буйнай кінагалаве пачаліся незваротныя хімічныя рэакцыі, якім проста не магчыма было застацца ў межах ужо і так ня мала разбухшым чэрапе. Маючы такі багаж, малады спэцыяліст адразу кінуўся за напісаньне сцэнараў, і вельмі удала. Уцюхаўшы іх парачцы агентаў, ён ужо сам, зламіўшы карак, кінуўся ў кінапрацэс. Па яго сцэнару Олівэр Стоўн замуціў шалёную па мантажу, весялуху-вандроўку двух адмарозкаў па дарогах ціхай Амэрыкі з назвай «Natural Born Killers». Забіяка Стоўн у гэтым фільме ня здрадзіў сабе, крытыкуючы недахопы амэрыканскага грамадзтва, як некалі сьмяяўся з палітыкі ўраду, вар'ятаў з Уол-стрыт і экстрэмалаў з джунгляў віетнама-сальвадора. Аднак прайдоха Квэнцін абвінаваціў кінамэтра, што той ня так інтэрпрэтаваў яго ідэю і ператварыў гангстэрскую «феньку» ў сацыяльную сатыру. Таранціна патрабаваў, каб яго імя зьнялі з тытраў. Канешне, гэта быў рэклямны фінт маладога пралазы. Проста праз сем тыдняў на экранах павінна была зьявіцца яго аўтарская праца. «Pulp Fiction» ня толькі дала «залатую пальмавую ветку» 31-гадоваму дзіваку, але і ў два разы большы мела посьпех у гледачоў, чым кліпападобная мешаніна старыка Стоўна. Канешне, куды таму было цягацца з ужо прафэсійным рэжысэрам-кінаманам, які, як запраўскі шулер, тусуе паміж сабой флэшбэкі і флэшфорвардсы, мантажуючы іх у духу Жан-Люка Гадара, прысыпаючы маральнымі байкамі-разгонамі, біблейскімі цытатамі ды базарамі па паняцьцях. Гэтай працай Таранціна падагрэў інтарэс да ягонай першай стужкі «Reservoir Dogs», якая па настрою болей брутальная за другую, болей рвана-натуральная, шчырая і жорстка-чалавечая містэрыя.

Пасьля такога посьпеху Таранціна даў сабе магчымасьць пазьдзеквацца ня толькі з кінафілаў, але і з самаго сябе, каб нафіг разьвеяць ужо ўстойлівы тэрмін «таранцінізм». «From Dusk Till Down» зьяўляецца простай бандыцка-вампірскай байкай: відавочна з аўтара палез той багаж кінашлаку катэгорыі B.

Фільмы Таранціна прымусілі прад'юсараў зьвярнуць увагу на малабюджэтны незалежны кінематограф, які, як паказала справа, можа прыносіць не благі даход, а часам нават і сур'ёзныя бабкі. Справы кінаразвадзілаў з кампаніі «Miramax» пайшлі ў гару.

«Jackie Brown» – трэцяя па ліку, ужо не была так абласкана абывацелям. Народ, звыклы тарчаць ад вампіраў, псэўдаінтэлектуальных разгонаў і пальбы, не прыняў спакойную гісторыю пра кідалаў копа і перавозчыцы.



Квэнцін засумаваў і недзе зашыўся. Некалькі гадоў нічога не было чуваць з фронту сінэфагу. І вось па апошніх чутках Таранціна ня толькі не губляў дарма час, але хутка выдасьць чарговы кінаопус. На гэты раз мэтар фарсу вырашыў падайсьці як мага сур'ёзней. Вядома, што ён, калі нешта датычыцца кіно, губляе башку. Напрыклад, калі яшчэ «зялёным» ён паглядзеў «A Better Tomorrow (Yinghung Bunsik)» – клясычны баявік васьмідзясятых Джона Ву, то адразу, згубіўшы дах, пабег у краму набываць плашч, касьцюм і акуляры, як у бандзюка з «трыяды», і гуляў такім клоўнам напрацягу некалькі тыдняў. Цяпер, каб злавіць натхненьне, ён глядзеў па некалькі самурайскіх анімэ і кунг-фу фільмаў у дзень, потым адразу сядаў за стол пісаць сцэнар, потым зноў да экрана шукаць ідэі – і так напрацягу цэлага года. Свой чацьверты фільм ён назваў проста – «Забіць Біла», і пабачыць яго можна будзе недзе пасля 10 кастрычніка. Сюжэт просты, як рэпа, але, ведаючы рэжысэра, можна сабе ўявіць, што можа хавацца за бляклай назвай, тым больш сам Харві Вайнштэйн (гл. *Навінкі* №9(88)), калі Таранціна ўжо спусьціў лішнія 11млн. даляраў, проста патэлефанаваў і сказаў: «Душка Квэнцін, ты проста здымай сваё кіно», – адразу з другога мабла, кінуўшыся дамаўляцца з ганконгаўскай студыяй «Show Brothers» на пакупку, якая дае правы на перавыданьне і здымкі рымэйкаў больш за 50 фільмаў. «Там столькі грандыёзных ідэяў для новых шэдэўраў, я даўно прыглядваўся да гэтай скарбонкі» – няўзрушана пракамэнтаваў кінабэндэр ●

## Зрабіце свае стаўкі!

*Некалі ўстрыца і ікра пасварыліся і пачалі спрачацца паміж сабой. Яны так былі захопленыя гэтым, што не заўважылі чайку, якая зьела іх абедзьвюх. Як гаворыцца, Трыяда і Якудза – браты на век, ніколі не здаюць сваіх братаноў, абы не было рускай мафіі... Дык што ж мы, магчыма, пабачым у новым фільме Квэнціна Таранціна?*




**ЖЫВЫМ АЛЬБО МЁРТВЫМ**

**Фільм:**
**Міке Такасі**
**У ролях:**
**Рыкі Такешы, Шо Аікава, Хітошы Азава**

1. У горадзе бушуе нарката, жратва, зброя, прасталыткі, кроў і сьмерць.
2. Да беспрыдзельшчыка Рю, які працуе на Трыяду, вяртаецца брацельнік, а ў копа няма 200.000 $ дачцэ на апэрацыю.
3. Коп юзае як інфарматараў чувакоў, што здымаюць парнушку з жывёламі.
4. Былы падзельнік Рю кідае на бабкі сяброў – сьмерць.
5. Коп пранюхаў, што Рю «дамовіўся» зь вялікай зямлёй. А сяброўка Рю пранікае ў логава Якудзы.
6. Сяброўку топяць ў фэкаліях, а коп закручвае балты і атрымоўвае зь якудзы 200.000$.
7. Якудза і трыяда братаюцца, а Рю адпраўляе ўсіх да праайцоў, але забіваюць брата Рю.
8. Коп абламаў наркатычны адкат для Рю, той падрывае машыну копа, але ў ёй вязьлі дачку на апэрацыю.
9. Фінальная сцэна: у копа кінулі нож і падарвалі гранатай, той сам сабе адарваў руку і дастаў базуку, а Рю дастаў блакітны магічны шар.
10. Зьвязьдзец Японіі і ўсім астатнім.




**ВЯРТАНЬНЕ**

**Фільм:**
**Іен Ву Пінга**
**У ролях:**
**Такешы Канешыра, Ан Сузукі, Масайя Такахашы**

1. 2348 год. На зямлі хуліганяць прышэльцы, апошнія людзі хаваюцца ў Тыбеце. Каб спыніць гэтую фігню бабу адпраўляюць у мінулае.
2. Яна апынулася паміж разборкай трыяды і чэснага японца.
3. Яна просіць дапамогі ў чэснага японца (лепіць на шыю бомбу), і яны адпраўляюцца на пошукі НЛА.
4. НЛА забралі ў дасьледчы інстытут, але туды пасьпяшаюцца чувакі з Трыяды. Зноў стрэльбы і разборкі.
5. Чувак з трыяды катуе прышэльца, забірае яго апарат і пасылае нафіг сваё начальства. Зноў стрэльбы і разборкі.
6. Баба зразумела, што вайну пачалі не прышэльцы, а людзі.
7. Ізноў стрэлы і разборкі. Чэсны японец і баба забралі прышэльца да сябе.
8. Ад чувака ня прста пазбавіцца, але тэхнічны прагрэс і прышэлец на баку апошніх. Ізноў стрэлы і разборкі.
9. Чувака на гэты раз забілі назаўсёды. Удзячныя прышэльцы забіраюць параненага.
10. У будучыні ніколі ня будзе вайны з гэтымі іншаплянэцянамі.

BANKER_KV@YAHOO.COM

## ! Таварышы дарослыя ! Хавайце відэакасэты ад дзяцей !

### Кіно вачыма дзіцяці






КАЛІ Я ЗНОЎ ЗАСТАЛАСЯ ДОМА АДНА, Я ПАГЛЯДЗЕЛА ВОСЬ ЯКІ ФІЛЬМ...

**Фрэнк Марцін зарабляе грошы перавозкай незвычайных грузаў. Ён дапамагае бандытам і прытрымліваецца строгіх правілаў: ніколі не парушаць умоваў зьдзелкі, ніякіх імёнаў, ніколі не глядзець багаж. Апошні груз, на першы погляд, нічым не адрозьніваўся ад усіх астатніх, але Фрэнк парушае свае ўмовы.**

**ПЕРАВОЗЧЫК**
**Фільм: Луі Летэр'е**
**У ролях: Джэйсан Стэтэм, Кі Шу, Мэт Шульцэ**



Торба ўсяго 50 кг. Хутчэй давязі яе да майго братана.



Чувак палез у сумку...



Спадзяюся, ты не глядзеў туды?... Вязі гэты чамадан.




Бандзюкі падарвалі яго БМВуху.




Калі ён пастраляў крыўдзіцеляў, то сустрэў бабу з торбы




– Мудафон, ты пакоцаў усіх маіх пацаноў!
– Ён лапаў маю дачку!



– Ты, мая дачка, пахерыла мне ўвесь бізнэс, страляй яе, а я гэтага замачу.



Але праз хвіліну дачка пальнула ў папіка. Так маладыя знайшлі каханьне.

Мне гэта нагадвае казку пра калабка, толькі наадварот:
– Я да бабулі прыйшоў, я да дзядулі прыйшоў,......, а да цябе, лісічка, тым больш....

# Сэксуальная падаплёка АЎТАШОЎ

Скажыце, дзе вы правялі сярэдзіну мінулага тыдня, і я скажу, ці лох вы. Бо ўсе нармальныя пацаны і нават некаторыя дзяўчынкі начамі трызьнілі, а днямі днявалі на менскім «Аўташоў-2003». Усяго за 2 тышчы ў дзень (а больш кемлівыя – і на халяву) вы маглі адчуць на сабе дзеяньне ўнівэрсальнай відовішчнай формулы «тачкі, цёлкі, павукі», хоць апошніх махнатых насякомых і не ставала. Пляцоўку перад уваходам у былую ВДНГ упрыгожвалі магутныя МАЗы ды колавыя цягачы, унутры – экспазыцыі з апошнімі таётамі, апелямі, сузукамі ды шкодамі. Але ня гэта было галоўным цьвіком выставы.

Па-першае – сцэна. Акрамя ўсялякіх ніндзяў, што ледзь не парэпалі сваімі бутафорскімі мячамі наварочаны опэль, перад удзячнай публікай выступаў эстрадны танцавальны ансамбаль «Чараўніцы», і тут ужо ўсе тачкі ў момант забыліся. Вось ужо ня думаў, што гэныя самыя кандовыя «Чараўніцы», пра якія па радыёкропцы амаль заўсёды гавораць побач з «Харошкамі», насамрэч так выглядаюць. Тут ня толькі пра ровары маторныя забудзесься – жонку родную ў ложку не пазнаеш. Сказаць, што на дзеўчынах амаль нічога не было – гэта нічога не сказаць. Трусікі можна было заўважыць толькі па белым колеры, а замест ліфчыкаў – нейкія прыгожыя вяровачкі. Карацей, экспазыцыя ледзь не правалілася, аднак экспанэнты ўчас прасяклі фішку, і пачалі выстаўляць побач са сваёй прадукцыяй гэткіх жа смачных краль. У сувязі з гэтым мне больш за ўсё спадабаўся стэнд са стартэрамі ад барысаўскага заводу БАТЭ: жорсткая эротыка побач з фалічнымі стартэрамі – відовішча не для кожнага. Не забудзьцеся схадзіць на «Мотаршоў», што пройдзе ў СКА «Уручча» ў ноч з 29 на 4. Будзе эратычна ●


*Менавіта так выглядаў самы папулярны стэнд на апошнім Аўташоў: сэксуальная дзяўчына з жарсьцю прыціскае да свайго гарачага цела стартэр вытворчасьці барысаўскага БАТЭ*

**Шума Хер,**
аўтааматар

## КутокСпажыўца

## Як ня едзь – усё роўна Гэць!

Хто з нас хоць куды-небудзь ня езьдзіў. І кожная дарога, нават самая кароткая на блізкае лецішча, падасца невыноснай без спадарожніка і бутэлечкі чаго-небудзь весяліцельнага. Калі ехаць вам недалёка, часу няшмат і давесьці сябе да патрэбнай кандыцыі трэба як мага хутчэй – вам падыйдзе бутэлечка-другая «Аўтобуснай» гарэлкі, тут спадарожнік неабавязковы, не заўважыце ні траскі, ні як даехалі. Але, калі вам давядзецца не адзін дзень муляць зад ды назіраць, як сьвет коціцца міма, раю ўзяць з сабой лішні заплечнік са скрыняй-другой віна «Дарожнага». Калі вы сапраўды ўвойдзеце ў яго дарожную эстэтыку, то пасьля выйсьці зь яе ўжо будзе вельмі складана, і не зьдзіўляйцеся, калі замест Віцебску вы знойдзеце сябе пад Навасібірскам і бяз воднай бутэлечкі «Дарожнай», што выробляецца выключна на Беларусі, у Маладэчне. Стойкі і моцны водар брусьнікі зьяўляецца галоўным плюсам гэтага напою і пераб'е любыя пахі — ад мазуту ды дыму да вагоннага сарціра за сьцяной. Але памятайце: з «Дарожным» трэба асьцярожна. Добрай дарогі! ●

**Джэймс Кук,**
падарожнік







Гэта – вашыя лепшыя спадарожнікі на шляху да перадаргазьменых адчуваньняў

## ЛістЫ з АнгбАнду

## Веснавыя гульні

**«Кібэрпанк 2666»** – так завецца гульня, якая пачынаецца 25 красавіка ля Гародні, арганізаваная Гільдыяй Вольных Стралкоў. Але што ў ёй ад кібэрпанку – цяжка сказаць. Па загрузу гульня ўяўляе сабой тыповы постапакаліпсыс, якіх шмат. Руіны сусьвету, некалькі кланаў, рэшткі разьвітой мэдыцыны ды зброі, але выкарыстоўваюцца і мячы з дубінкамі. Гандаль чалавечымі органамі. Карпарацыі. Зь Менску едуць чалавек трыццаць гульцоў.

**Каб закапаць клад**, выяжджае ў пятніцу майстарская каманда на востраў у Менскім моры. Гэта робіцца ў межах падрыхтоўкі да гульні «Востраў скарбаў», арганізаванай Рэзнарам ды Таньшай. Гульня пачнецца адразу апасьля гэтага. Майстры – людзі вельмі паважаныя, і гульня чакаецца вельмі добрай. Цікава, што сярод пэрсанажаў няма жанчын, таму шматлікія гульцы-дзяўчаты мусяць адгульваць мужчынскія ролі.

**Засталося некалькі дзён** да заканчэньня гарадзкой гульні «Каінава пячатка». Пэрсанажы за час гульні пасьпелі даведацца, што ў горадзе існуе шмат вампіраў, якія належаць да розных кланаў. Апасьля гэтага пачалося сапраўднае «паляваньне на вядзьмарак», калі вялікія гурты людзей (баяцца самотна хадзіць) бегалі туды-сюды ды прапанавалі ўсім сустрэчным дакрануцца да срэбра, біблії, да часныка альбо адпіць сьвянцонай вады. Калі некага пачынала ад гэтага каўбасіць – яго ў той жа момант расстрэльвалі сьвянцонымі альбо нават срэбнымі кулямі. Людзі таксама шукалі пярэваратняў. А ў апошніх былі свае разборкі з вампірамі: яны вырашылі павылазіць са свайго Ваўкавыска, дзе іх было хоць гаць гаці, і ўсталяваць уладу ў сталіцы. Бедных вампіраў абклалі з усіх бакоў, а ў іх яшчэ ўнутраныя разборкі за ўладу... Зь цягам часу частка паляўнічых на вампіраў, якія былі тым ці іншым чынам параненыя, пачала ператварацца ў нешта незразумелае. Таксама быў момант, калі ў горадзе паелі ўсіх мянтоў. Некалькі гадзін была анархія.

**Цывік Агідны**

*P. S. Калі вы маеце нейкую інфармацыю, якая датычыцца ралявых, рыцарскіх альбо талкіенісцкіх падзеяў краіны, пішыце на* ***civic_agidny@tut.by****.*

## МузабсОс

## Піт – лектар-гітарыт

Усё няймецца Піту Паўлаву, вядомаму па сваім скандальным, можна нават сказаць памылковым, удзеле ў самым навязьлівым і агрэсіўным поп-гурце краіны NRM, а таксама ў ня менш кандовых KRIWI. Нарэшцэ ў ягоных фанатаў зьявілася спадзяваньне, што ён пакіне гэтую адыёзную банду, дзякуючы заснаваньню гітарыстам № 1 у Беларусі, прычым выключна з-за ўласных творчых і вакальных амбіцыяў, двух новых праектаў – ГАРАДЗКІЯ і PETE PAFF. Менавіта гэтыя амбіцыі мусяць сабраць вас на доўгачаканым канцэрце амаль сольнага канцэрту Піта – гурта PETE PAFF. Самым цікавым будзе ня музыка, а лекцыя сп. Паўлава, тэма якой трымаецца ў сакрэце.

Заклапочаныя чакаюцца **12 траўня ў 19.00 у актавай залі філфаку БДУ (К.Маркса, 31)**. Квіткі, коштам у 3 тышчы распаўсюджваюцца выключна па-масонску, праз знаёмых па тэлефоне **256-46-07**.

## Dubeľ s not dead!!!

Увечары 17 красавіка надзьмуты клюб «Рэактар» вымушаны быў прыняць у сваё лона натоўп брудных, п'яных і пераважна непаўналетніх панкаў, што прыпаўзьлі на чарговы канцэрт Нейра Дзюбелю. Нагодай для падзеі, па словах самога Кулінковіча, было жаданьне даказаць усім, і ў першую чаргу сабе, што яны яшчэ жывыя. Відаць, менавіта гэты асацыятыўны рад і прымусіў вечных фанатаў Кабэйна, Цоя і прочых Сідаў Вішызаў паздымась з хатніх алтароў заслюняўленыя маечкі з выявамі сваіх куміраў і прыпаўзьці лавіць халяву каля гоп-клюба №1. Другой нагодай для канцэрту было датэрміновае вяртаньне з войска старога гітарыста «дзюбялёў», што шчасьліва адкасіў, атрымаўшы язву. Усім бы так...

Ужо за гадзіну да канцэрту пляцоўка перад клюбам уяўляла сабой заср*нае піўное пабоішча. Патлатыя асобы з няўцямнымі позіркамі клянчылі халяўныя білецікі. У клюбе ўсе таксама актыўна паддавалі. Але галоўны сюрпрыз чакаў перад уваходам – побач з клясычнымі дыскамі ад БМА прадаваліся пірацкія копіі раньніх альбомаў Нейра Дзюбеля па шалёных коштах, на што і ахова і праваўладальнікі не зьвярталі ўвагі. За што толькі хочацца падзякаваць адміністрацыі «Рэактара» – дык за тое, што на гэты раз ахова нікога асабліва не мяцеліла і не лаялася матам на малалетак, а піва ў бары скончылася на працягу гадзіны, таму ня ўсе малалеткі пасьпелі ўпіцца і не мяцелілі ахову.

Сам канцэрт не назавеш кандовым – дзюбеля тры гадзіны адпахалі на блага ацечаства, выканалі шмат з новага, беларускамоўнага і ўсе старыя хіты. Толькі што састарэлі і скуксіліся ўжо музыкі – пачалі ісьці на кампрамісы з часам і сабой: замест вядомага хіта «Грамадзянін, забі амэрыканца» Кулінковіч, у сувязі з апошнімі падзеямі, а можа і з-за страху сьпяваў «Грамадзянін, пацалуй амэрыканца». Нейкі міжнацыянальны гомасэксуалізм атрымліваецца. П'яны тралейбус дахаты, пошукі начніка, дзе б дагнацца, «мля, буду сонца» з вакна на іншым канцы горада... Галоўнае, што Кулінковіч жывы, нават памацаць можна было ●

**Дракула,**
паталягаанатам



## *Як адцягнуцца...*

### Па-БГшнаму

**Барыс Барысыч Грабеншчыкоў разам са сваім АКВАРИУМОМ** (пяць літраў піва і тры воблы) лабае у **КЗМ (1.05/19:00) на пралетарскае сьвята першамаю**.У сьвятле актуальнай міжнароднай абстаноўкі канцэрт у Менску расейскага пацыфіста, які да таго ж любіць пантавацца, нібыта ў яго «кожная песьня – тэрарыстычны акт», значна падвышае шанцы Беларусі стаць чарговым атрымальнікам пэндалёў ад амэрыканскіх ястрабаў. Гэты цягнік у вагні...

### Па-ўродзку

Слоган «Рок-н-рол мёртвы, а я яшчэ не» на гэтым тыдні ў Грэбня спрытна ўвяла **Рок-каранацыя (25.04/19:00).** Узнагароджаньне каронкамі і разбор партфэляў на магіле галоўнага рокера стагодзьдзя вельмі нагадвае радасьць шакалаў ад таго, што «Акела прамахнуўся!». Недасьведчаны чалавек мог бы падумаць, што каронкі расьцягваюць па розных дробных ВІА таму, што памёр іх (каронак) папярэдні сукупны ўладальнік...

### Па-ірацку

Працягваючы эксплюатаваць тэму вайны, **клюб *NC* запрашае на вечарыну**, цьвіком якой стане **сэт ад ды-джэя «Бацькі» (FatherEU)** з самага натуральнага Багдаду. Чакаецца наплыў агентаў ЦРУ з руху «Зубр» – яны будуць правяраць, ці не стаіць за пультам пераапрануты Сам. Але ім прыйдзецца нялёгка – ажыцьцяўляць шумавое прыкрыцьцё з псыхічнай атакай будуць менчукі **ВІРУС ЛІХА** ды **ХАЙЛЕТУМС**. Апэрацыя па нейтралізацыі амэрыканскіх шпіёнаў анансуецца ў афішах пад кодавай назвай **«Радыё Туніс» (пачатак-*2.05/23:00*)**.

### Па-іранску

Ці то для канспірацыі, ці то для дадатковага выяўленьня контры недабітай, ці то з жаданьня выклікаць інфаркт у амбасадара ЗША той жа ***NC*** **прызначыў на *11.05/19:00* вечарыну** зь яшчэ адным ды-джэем – прадстаўніком «восі зла» (то бок ахвяр амэрыканскага імпэрыялізму) – гэтым разам у галоўнай ролі выступае **праект БАРБОД з Ірану**. Агнявая музычная падтрымка зь беларускага боку грунтоўная – **КНЯЗЬ МЫШКІН, СПАСІБО, ВІРУС ЛІХА, KRITCHEV vs Ban, КАЛАХІРІ (з удзелам музыкаў БЕЗ БІЛЕТА)**.

### Па кіно

Як ні дзіўна, кіношкі гэтым тыднем можна пабачыць вельмі прыстойныя. У працяг ваеннай тэмы, пакутуючым на хранічны патрыятызм у вострай форме я б параіў стужку **«Чатыры пяра» (Аўрора)** – там распавядаюць, як ад гэтай хваробы вылечыцца...
**Кінаклюб «Профіль»** працягвае запрашаць на **амаль халяўныя сэансы ў *«Піянэры»*** — гэтым разам круцяць **клясыку Боба Фоса «Кабарэ» (28.04)**, уваход – нешта **каля 800 рублёў**.
А аматары творчасьці **Алана Флэшэра** могуць пабачыць ня толькі ўсе ягоныя фільмы, але й самога рэжысэра — жывым і здаровым у **Саюзе Кінематаграфістаў (29.04/15:00) альбо кінатэатры «Перамога» (29.04/ 18:30)**. Пасьля апошняе сустрэчы там жа пакажуць **«Неспакойны сьвет», 2000, 90 хв + «Алан Флэшэр», 2002, 14 хв**.
Што тычыцца астатніх кіношак, то паказваць іх (6 штук) пачнуць пасьля **7.05 у кіналекторыі мастацкага музэю**. Адпаведна, падрабязнасьці – у наступным нумары.
Прыемнага прагляду!

**Санітар,**
культурны футуроляг

*P.S. Зьлівайце анонсы на мыла **sanitar@tut.by**, альбо на пагер **2070000аб 6589669**.*



# Плянуй свой ПЛАН

## *Наш блюз на ростанях*



Што насамрэч чакае беларускі блюз, ніхто ня ведае. Налева пойдзеш – струна вока выб'е, направа пойдзеш – пальцы сабе адажрэш, прама пойдзеш – да сьмерці Пугачовай падыгрываць будзеш

### Частка музычная

Цяжка ў наш час жывецца сапраўднаму беларускаму блюзмэну. Кожны наравіць сіроцінушку пакрыўдзіць. Становішча іх чарнаскурых калегаў пачатку мінулага стагодзьдзя з заакіянскіх берагоў мутнае рэчкі Місісіпі можна лічыць росквітам мэркантыльнага шоў-бізнэсу. Нашыя ж бедакі заціснутыя з усіх бакоў: і канцэртаў у іх амаль няма, і грошай ім ня плоцюць, і не шануюць лягендаў ні крытыкі, ні мэляманы. Таму даводзіцца айчынным монстрам маруднай гітары выпускаць свае шэдэўры на ўласнае бабло, як адбылося і з новым альбомам «Блюз у канцы тунэлю» старога гурта ПЛАН.
Так і спасьціг гэты горкі куфаль лягенду беларускага року – спадара Андрэя Плесанава – заснавальніка гэтага гурта са шматзначнаю назваю. Дзядзька пачынаў свае біт-квартэты, квінтэты ды сэкстэты яшчэ ў далёкія шасьцідзясятыя, парыўся пра праўду блюзу, таму й сьпяваў і па-ангельску. Аднак пасьля каньюктура прымусіла далучыць свой талент і да тагачасных фаварытаў сцэны – ЛЯВОНАЎ (будучых мулявінскіх ПЕСЬНЯРОЎ), Юрыя Антонава ды некаторых іншых забытых ДОЙЛІДАЎ ды ШПАКОЎ; засьвяціўшыся таксама й на саўндтрэку да культавага савецкага кінематаграфічнага шэдэўру «Мяне завуць Арлякіна».
Блюз, як вядома, – гэта калі добраму чалавеку дрэнна. І вось, па ўсім відаць, дзядзьку Плесанаву апошнім часам было зусім пагана. Дасталі блюзмэна татальнае безграшоўе, міт аб безнадзейнай моўнай сытуацыі, ненажэрныя прад'юсары, кшталту заклапочанага выбіваньнем грантаў пад белрокмову Супрановіча з БМА, і ўсьлед за адмовай ад амэрыканскага блюзу жывая ікона, Андрэй Плесанаў, быў вымушаны адмовіцца і ад свайго расейскага блюзу. Вынікам чаго і стаўся гэты альбом. На ім вы ня знойдзеце ніводнага рускага слова – нават старыя песьні былі жорстка перакладзеныя на матчыну мову нястомным графаманам Вітаўтам Мартыненкам. І «Искатели смысла» ператварыліся ў «Шукальнікаў сэнсу», а «Домино» ў «Даміно». Добра, хоць музон пакінулі ў спакоі, і ў лепшых месцах ён нагадвае КРАМУ, Мадзі Уотэрса і нават Джона Лі Хукера. Магло быць і горш.

### Частка вербальная, ад Мартыненкі

Пакінем у спакоі тэксты песьняў – нічога асаблівага, тым больш што ў некаторых зь іх утрымліваецца намёк (ці спроба) на абразу Прэзыдэнта («Рабы і воля», «Я не люблю»), а гэтага падтрымліваць і распаўсюджваць мы ня зьбіраемся. Падцьверджаньнем гэтага факту зьяўляецца тое, што дыск ня быў узяты на ратацыю ніводнай паважаючай сябе і ўладу радыёстанцыяй.
Нашмат большую цікавасьць уяўляе для нас псыхадэлічны тэкст у буклеце дыску ўсё таго ж знакамітага Вітаўта Мартыненкі. Такіх дыфірамбаў нават Бі Бі Кінг не выслухоўваў за ўсё жыцьцё. Толькі што ў заслугу музыку ставяцца не ягоныя ўласныя дасягненьні ў адпаведным рэчышчы, а тое, што ён мае ўласную калекцыю «беларускага авангарду» і... Гэта варта працытаваць: «Пачнем з таго, што гэта пляменьнік славутай Паўліны Мядзёлкі»... Дык калі гэта галоўнае, з чаго варта было пачынаць, можа і гурт трэба было назваць адпаведна – PAULINKA BLUES PLAMENNIK GROUP? Спадар Мартыненка любымі коштамі хоча прымазацца да славы Плесанава: «Я зразумеў, што мы людзі адной эпохі, лёс якіх пралягае паўзьверх усялякіх модных плыняў у мітусьні шоў-бізнэсу...». Карацей, «мы з табой адной крыві» ў сучасным выкананьні. «Слухайце, – піша сп. Мартыненка, — і ў вашай душы таксама прачнецца прага да рэальнага жыцьцёвага кантэксту.» Сказаў, быццам у ваду пукнуў: раней, відаць, аўтар рэцэнзіі жыў бяз гэтай прагі, ды й большасьці людзей яе не відаць, бо наклад дыска – усяго тысяча асобнікаў. Бывай, кантэкст ●

# *Немарфамт*



***Падчас свайго пэрфомансу Алесь Пушкін доўга спрабаваў нацягнуць на сябе боты. Падказкі з залі, кшталту «нацягні парцянкі» не давалі патрэбнага эфэкту. Відаць, мастак ня ведае, што гэта такое, хоць і круціў носам ад сваіх ванючых шкарпэтак***

Як і абяцалі таямнічыя заснавальнікі сучаснага мастацтва 23 красавіка адбылося сьвята «Нефармату» ў ДК Юнацтва на Фабрыцыюса 5. Малпа хто ведае, якіх высілкаў каштавала гэтая дзея арганізатарам – чыноўнікі ад культуры ўсё хацелі то адмяніць, то адключыць, урэшце дазволілі, але толькі да 20.30. Некаторыя з удзельнікаў шоў пасьпелі выступіць. Мастак Алесь Пушкін паказаў народу пэрформанс, прысьвечаны ўспамінам пра службу ў войску. Алесь павесіў свае боты і салдацкі рамень на сьценку і на вачах у публікі пераапрануўся – ён і ў цывільным выглядзе дужа падобны на нейкага паліцая. СОЛНЦЕЦВЕТЫ пасьля невялічкай нойзавай каўбасы разьвялі свае бясконцыя блюзы, тэатар The Eye у змрочных чорна-чырвоных прыкідах з невядомай вар'ятні хвілін 15 палохаў публіку. «Рацыянальная дыета»: сакс+нойз «ад Банкера» пад няўцямнае мармытаньне францускай паэзіі таксама нядоўга палохалі невялічкую колькасьць цікаўных гледачоў. ZasrKaz'аўцам не далі дасьпяваць «аналіз кала» – прыйшлося «даганяцца» на вуліцы. Нават паэт Хадановіч пасьпеў выкаціцца на сцэну, прачытаць пару вершыкаў і сарваць пару апладысмэнтаў. А вось акыну і саксаулу нацыянальнага пэрформансу Зьміцеру Вішнёву быў поўны аблом і рэквізыт – два дзясяткі курыных яек – пэрформэр панёс высіжваць дадому. Вось так чыноўнічы праізвол і ідэалягічная зашоранасьць адміністратараў ДК «Юнацтва» тармазяць няўхільны і імклівы прагрэс сучаснай маладзёжнай культуры ●

# Неверагодныя прыгоды французаў у Беларусі

